**№ 80 (4127)**

14 кастрычніка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЧУЛІ?

## Ізноў — толькі плюс пяць

Працоўныя пенсіі з 1 снежня 2016 года павышаюцца ў сярэднім на 5 працэнтаў.

Апошнім разам працоўныя пенсіі павышаліся ў верасні мінулага года. І таксама на 5 працэнтаў.

# Доля малога і сярэдняга бізнесу ў фарміраванні валавога ўнутранага прадукту: Еўрапейскі Саюз, Злучаныя Штаты Амерыкі, Японія — 62–65 працэнтаў, Беларусь — прыкладна 25–27 працэнтаў. Дык калі ж нашы ўлады дадуць зялёнае святло актыўнаму прадпрымальніцтву?

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



## Алена АНІСІМ: «Я, напэўна, адзін з самых эканомных дэпутатаў»

*11 кастрычніка беларускія парламентарыі новага склікання сабраліся на сваё першае пасяджэнне. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алена АНІСІМ падзялілася з "Народнай Воляй" уражаннямі ад знаходжання ў Авальнай зале, распавяла пра льготы для абраннікаў народа, а таксама пра тое, чаму яна галасавала за Уладзіміра Андрэйчанку.*

У першы дзень працы дэпутаты трэці раз запар абралі старшынёй Палаты прадстаўнікоў **Уладзіміра Андрэйчанку**, узгаднялі колькасць пастаянных камісій, выказвалі свае пажаданні наконт уваходжання ў тую ці іншую структуру…

– Нічога незвычайнага ў гэты дзень асабіста для мяне не было, – распавядае **Алена Анісім.** – Як не было і вялікіх эмацыянальных уражанняў. Проста ўваходзіла ў працоўны рытм, прыглядалася… Я бачу, што ёсць з кім працаваць і могуць быць вынікі. Асабліва тое, што тычыцца падтрымкі беларускай мовы. Тут ёсць добрыя перспектывы. Дарэчы, усе дакументы ў парламенце я афармляю па-беларуску, і ніякіх праблем з гэтай нагоды няма.

**– З кім вы ўжо пазнаёміліся?**

– Найперш – з усёй дэлегацыяй ад Мінскай вобласці. Усе адзін аднаму дапамагаюць, атмасфера добразычлівая.

**– Дэпутат Ганна Канапацкая ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі прыйшла на першае пасяджэнне ў парламент з бел-чырвона-белым сцяжком на сукенцы…**

– Я прыйду з такім значком тады, калі палічу важным нейкі дзень. Не хачу выкарыстоўваць бел-чырвона-белы сцяжок як дзяжурны атрыбут. Ён павінен быць для святаў. Да таго ж я не хаджу ў адным і тым жа адзенні, а кожны дзень перашпіляць значок таксама не будзеш. Але ў мяне ёсць дата, калі я абавязкова прыйду з ім.

**– Гардэроб да дэпутацтва ўжо абнавілі?**

– Безумоўна, бо жанчына заўсёды застаецца ў першую чаргу жанчынай. Сёетое набыла, нешта яшчэ хацелася б… Ёсць вялікія планы, каб купіць беларускі нацыянальны строй, але я павінна яго яшчэ знайсці і падабраць. Натуральна, з'яўлюся ў ім і ў парламенце.

**– Пра дэпутацкія льготы, заробак, які будзеце атрымліваць, вы ўжо даведаліся?**

– Я, напэўна, адзін з самых эканомных дэпутатаў. Жыллё ў Мінску мне не патрэбна, бо ёсць уласная кватэра. Калі буду выязджаць у сваю акругу, там таксама не трэба траціць дзяржаўныя сродкі на жыллё, бо ёсць дом, які застаўся ад бацькоў у спадчыну. Што ж тычыцца майго заробку, то шчыра кажу – пакуль не ведаю, які ён будзе. Казалі, што на міністэрскім узроўні. Паведамлю вам, калі атрымаю першыя грошы.

**– У першы дзень сесіі амаль аднагалосна пераабралі спікерам Палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Андрэйчанку – 108 дэпутатаў прагаласавалі "за", "супраць" – адна Ганна Канапацкая. Чаму вы вырашылі прагаласаваць за Андрэйчанку?**

– Напярэдадні параілася з адным чалавекам, ён сказаў, што па чалавечых якасцях і па арганізацыі працы Андрэйчанка дастаткова кампетэнтны чалавек. Ды і альтэрнатывы яму зусім не было. Прапаноўвала аднаму з дэпутатаў (не хачу называць яго прозвішча) вылучыць сваю кандыдатуру на пасаду спікера, але ён катэгарычна адмовіўся. Адным словам, галасаванне было безальтэрнатыўнае, а значыцца, яно станавілася фармальнасцю. А навошта галасаваць "супраць" фармальна? Часам ёсць моманты, калі ведаеш, што трэба толькі "супраць" і ніяк па-іншаму. Але зараз была не тая сітуацыя, каб ісці на прынцып.

**– А ці казалі вы ў першыя дні ў парламенце пра сітуацыю, якая сёння склалася ў Беларусі, пра тое, што краіна валіцца ў прорву?**

– Зараз у парадак дня ўнесена толькі абмеркаванне арганізацыйных пытанняў – выбары кіраўніцтва парламента і фарміраванне камісій. Рэгламентам не прадугледжаны нейкія выступленні. Але ж будзе яшчэ час выказацца…

**Алесь СІВЫ.**

ТЫМ ЧАСАМ

Учора намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў абраны **Баляслаў Пірштук**. Да абрання ў парламент ён працаваў намеснікам старшыні Гомельскага аблвыканкама, дзе займаўся пытаннямі эканомікі. На пасаду віцэ-спікера яго вылучыў асабіста старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка.

Іншых прапаноў ад дэпутатаў не паступіла, хаця Андрэйчанка адмыслова запытаўся пра гэта. Пірштук абраны віцэ-спікерам пераважнай большасцю галасоў: 105 «за» пры 4 «супраць».

ВИЗИТ

## Лукашенко в Ереване

Сегодня Александр Лукашенко находится с рабочим визитом в Армении. Он примет участие в сессии Совета коллективной безопасности ОДКБ.

Во время ереванского саммита председательство в ОДКБ перейдет от Армении к Беларуси.

НЕРУХОМАСЦЬ

## Кватэры таннеюць…

На другасным рынку нерухомасці назіраецца зніжэнне попыту на кватэры. Эксперты лічаць, што асноўная прычына ў тым, што даходы не растуць, а крэдыты па-ранейшаму недаступныя з-за высокай працэнтнай стаўкі.

Летам аднапакаёўку ў сталіцы можна было набыць прыкладна за 45 тысяч долараў, двухпакаёўку – за 57 тысяч, а трохпакаёўка каштавала каля 80 тысяч долараў. Цяпер жа, з надыходам восені, попыт на кватэры знізіўся на 20%. Гэта сезонная з'ява: вясной і летам адбываецца больш здзелак, бо бацькі набываюць кватэры сваім дзецям, якія паступілі ў навучальныя ўстановы, альбо іх скончылі.

Рыэлтары зазначаюць, што прапанаваны кошт у аб'яве, як правіла, адрозніваецца ад таго, які будзе фігураваць у здзелцы. Ён заўсёды ніжэйшы. Гэта тычыцца "панэлек" і "непанэлек" – так званых хрушчовак, брэжневак і сталінак. Пакуль жа яшчэ больш-менш трымаюцца кошты на кватэры ў сучасных каркасна-блочных дамах, якія пабудаваны ў 2009 годзе і пазней.

**Любоў ЛУНЁВА.**

В МИРЕ

## В Австрии медики пришили ноги молодой жене фермера, попавшей в молотилку

Трагический инцидент произошел в небольшой сельской общине Дразенхофен, расположенной на границе Австрии с Чехией. 22-летнюю супругу фермера затянуло в машину для уборки кукурузы. Девушке оторвало ноги, но врачам удалось в ходе сложной операции вернуть конечности на место. Трагический случай шокировал местных жителей.

## В Поднебесной больше миллиардеров, чем в США

По данным журнала «Хужунь», часто сравниваемого с Forbes, в материковом Китае граждан с миллиардным состоянием – 594 человека и еще 94 постоянно проживают в Гонконге, Макао и на Тайване. В США сейчас насчитывается 535 миллиардеров.

ЭКОНОМИКА

## Китайцы помогут «Амкодору»

Белорусский производитель спецтехники подписал три крупных контракта на общую сумму в 400 млн долларов.

*«Наш холдинг «Амкодор» и наша компания-партнер – холдинг «Салео» – в рамках договоренности между главами государств Беларуси и КНР подписали договоры с китайцами на строительство завода по производству спецтехники «Амкодор-МАШ» в поселке Колодищи Минского района, а также контракт по модернизации двух заводов в Кобрине и Гомеле»,* – рассказал на пресс-брифинге в Минске *директор по инновациям и инвестиционным проектам ОАО «Амкодор – управляющая компания холдинга»* ***Игорь Каюда****.*

Стоимость контракта по строительству завода под Минском составляет 230 млн долларов.

**Александр ЯРОШЕВИЧ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## Плюс Таўстыка…

*Кандыдатаў на пасаду старшыні руху "За Свабоду" ўжо трое*

У нядзелю, 16 красавіка ў гатэлі "Планета" адбудзецца справаздачна-выбарчая канферэнцыя арганізацыі. Тое, што мерапрыемства пройдзе нясумна, сведчыць той факт, што толькі на абранне кіраўніцтва руху адведзена больш за тры гадзіны. Як паведаміла прэс-служба руху "За Свабоду", у 12.45 пачнуцца выбары кіраўніцтва, а вынікі будуць абвешчаны ў 16.15. Гэта вам не таемнае галасаванне ў парламенце!

Як паведамляла раней "Народная Воля", пра свае планы паспрачацца за пасаду **кіраўніка руху заявілі Юрась Губарэвіч і Алесь Лагвінец. Днямі яшчэ адзін актывіст арганізацыі – Аляксандр Таўстыка заявіў:** "Маю намер прапанаваць сябе на пасаду кіраўніка ПАГА рух "За Свабоду". Лічу, што валодаю якасцямі лідара, магу выкарыстоўваць свой патэнцыял як крэатыўны, мужны і цікавы палітык".

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЗА ЧАШЕЧКОЙ КОФЕ С МАРИНОЙ КОКТЫШ



## Андрюс ПУЛОКАС: «Никто не знает, что будет завтра»

*Он не любит фотографироваться. Разбирается в политике. Смотрит в глаза, а не в компьютер. Умеет варить отличный борщ и сам укладывает детей спать. Хочет нанять преподавателя белорусского языка.* ***Знакомьтесь:*** *новый Чрезвычайный и Полномочный Посол Литвы в Беларуси* ***Андрюс ПУЛОКАС.*** *Это его первое интервью в новой должности.*



### Протокольный нестандарт

**– У вас очень необычное фото, сделанное после получения верительных грамот от президента Литвы Дали Грибаускайте: вместе с женой и детьми…**

– У нас есть такая хорошая традиция: на вручение верительных грамот можно приходить со своими близкими. С одной стороны, это как бы и формальная процедура, но по своей сути она у нас очень теплая. Можно взять с собой жену и детей, сестру или родителей – кому как захочется. При этом есть возможность пообщаться с главой государства. Не только поговорить о работе, но и обсудить какие-то жизненные вопросы. Одним словом, это такое приятное общение.

**– Судя по фото, дети остались довольны…**

– Конечно! У них были очень живые впечатления: до этого они видели главу государства только по телевизору и в газетах. Я, кстати, удивился, как непосредственно они себя вели. Не было ни страха, ни волнения.

**– А вы волновались?**

– Конечно! Думаю, это нормально. Все-таки это глава государства…

**– Сколько лет вашим сыновьям?**

– 6 и 9.

**– В Минске они учатся в обычной школе?**

– Нет, пошли в международную. Смену места жительства восприняли нормально. Мне кажется, дети при таких глобальных переездах переживают меньше родителей. Погода такая же, мама-папа рядом, обед дома тот же самый. А то, что в школе нужно на другом языке говорить, так это для них тоже не большая проблема.

**– Ну да, сейчас молодежь в Литве больше на английском говорит, чем на русском…**

– Я долгое время работал в Москве, младший сын там родился. Старший сын некоторое время ходил в московский детский сад, и у него остались воспоминания о русском языке. А младшему, конечно, труднее. Но, думаю, он тоже быстро адаптируется. Мы всегда стараемся покупать детям книжки на разных языках, мультфильмы они тоже на разных языках смотрят.

**– У вас непростая работа. Получается при насыщенном графике достаточно времени уделять детям?**

– Я очень стараюсь. Перед сном каждый вечер обязательно обговариваю с ними прошедший день, интересуюсь, как дела в школе. Я сам их спать укладываю, такая традиция сложилась с рождения сыновей.

### АЭС преткновения

**– У вас был долгий разговор с Владимиром Макеем. Какое впечатление на вас произвел министр иностранных дел, которого называют одним из самых влиятельных и мудрых белорусских чиновников?**

– Могу согласиться с тем, что он действительно очень мудрый. Мы с ним общались довольно долго, прошлись по многим вопросам из повестки наших двусторонних отношений. Несмотря на то, что это была первая протокольная встреча, беседа прошла в дружественной атмосфере. Было интересно. Самое главное, я почувствовал, что это хорошее начало и для меня как для посла есть полное понимание того, что нужно делать.

**– На встрече с вами Даля Грибаускайте напомнила, что необходимо требовать от белорусских властей прозрачности строительства АЭС в Островце и приезда международных экспертов, которые могли бы дать объективную оценку безопасности объекта и его воздействия на окружающую среду. Как вы планируете взаимодействовать с нашими властями по этому вопросу?**

– Безусловно, безопасность АЭС для нас очень важна. Атомная станция строится в 35–40 километрах от Вильнюса, и есть много вопросов, на которые мы не можем получить четкие и ясные ответы. У нас есть разногласия в понимании того, как будет обеспечиваться радиологическая безопасность этого объекта. Было много встреч, разговоров, но друг друга мы так и не услышали. Мы призывали белорусскую сторону пригласить международную миссию МАГАТЭ, которая оценила бы не только сам проект АЭС, но и площадку, на которой она размещается. Потому что по этому поводу тоже высказываются разные мнения.

*(Окончание на 2-й стр.)*

